


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 14 (293) ВЕРАСЕНЬ 2020 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*Ад велічы да ганьбы – адзін крок.*

*Анатоль Вярцінскі*

ПОГЛЯД БЛОГЕРА

## БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗМАГАЕЦЦА ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ КРАІНЫ

**Мінуў месяц масавых мірных выступаў грамадзян Беларусі супраць фальсіфікацыі выбараў, узурпацыі ўлады, жорсткага задушэння мірных пратэстаў з смяротнымі ахвярамі, сотнямі пакалечаных, тысячамі збітых і зняволеных. Пакуль ніякіх станоўчых зрухаў па змене ўлады, ці нават пачатку нейкага перамоўнага працэсу не адбылося.**

Бок, які цяпер не ашуканствам і прапагандай, а выключна гвалтам і сілай утрымлівае ўладу, проста не здольны на перамовы. Пакуль не прагледваецца ніякіх станоўчых сцэнароў мірнага транзіту ўлады і "над краінай хмары, хмары…". Але беларускі народ не здаецца, выяўляе цуды самаарганізацыі і па-сапраўднаму прагне волі, як бы пафасна гэта не гучала. Людзі ў розных гарадах краіны па-ранейшаму выходзяць на акцыі мірнага пратэсту, нягледзячы на пагрозы і рэпрэсіі.

У цяперашніх падзеях, што адбываюцца ў Беларусі, вельмі шмат сімвалізму і розных алегорый. Нават прозвішчы галоўнага начальніка дзяржаўнай міліцыі Караева і новага "губернатара" Гарадзенскай вобласці Караніка надзвычай трапна сугучныя іх карным дзеянням і памкненням. У гэтых, і многіх іншых дзяржаўных прызначэнцаў хунты няма ў лексіцы такіх слоў і словазлучэнняў як "паразуменне з народам", "дыялог з грамадствам", "пошук шляху замірэння". Ні на які палітычны кампраміс, ні на якія перамовы яны нават не збіраюцца ісці. У іх толькі адзін кірунак – палохаць, душыць, біць, "закатваць у асфальт". Яны гатовыя выканаць кожны злачынны загад кіраўніцтва. Злавесную абрэвіятуру ОМОН (отряд милиции особого назначения) нават не хочацца перакладаць на беларускую мову. Пасля змены рэжыму гэтая структура павінна быць поўнасцю распушчана, а замест яе створана новая паліцыя і новыя, сапраўды праваахоўныя, а не карныя органы. А ОМОН стане, ды і ўжо стаў, у адзін шэраг з савецкім НКВД і гітлераўскім Schutzstaffeln (SS). Яго рэпутацыю і сутнасць ужо не зменіць нічога.

Характэрная яшчэ адна канкрэтная гісторыя, што здарылася не так даўно ў Гародні. Дзве "амонаўкі" жорстка збілі жанчыну, якой за 50 гадоў, фактычна па ўзросце сваю маці. Калі жанчыну душылі, яна ўкусіла за руку адну з "амонавак". Цяпер на гэтую пацярпелую ад гвалту жанчыну завялі крымінальную справу і ёй пагражае турэмны тэрмін. А калі ахвяра запыталася ў душыцелек іхныя прозвішчы, яны весела адказалі – Насця Лукашэнка і Маша Лукашэнка. Сапраўдныя прозвішчы гэтых маладых і сімпатычных супрацоўніц карнага атраду гарадзенцы ведаюць, ведаюць іх і у твар – маладыя жанчыны шмат дзе "засвяціліся". Але яны сапраўды дзеці ці ўнучкі Лукашэнкі, дзеці хлусні, крывадушнасці і подласці, дзеці чалавеканенавісніцкай прапаганды.

Беларускі народ, які зараз змагаецца за вызваленне краіны ад чорнай злачыннай навалы, павінен усведамляць, што барацьба ідзе не проста з нейкім унутраным рэжымам узурпатара. Змаганне ідзе адначасна супраць крамлёўскага філіялу і знешняй маскоўскай агрэсіі. Гэта Пуцін выявіў і аказаў поўную падтрымку свайму саюзніку-васалу, гэта ён пагражае нашаму народу сваім войскам. Гэта кіраўнік міністэрства замежных спраў Расеі Лаўроў зусім нядаўна заявіў, што расейцы і беларусы – гэта адзін народ, а ніякай беларускай мовы не існуе. Яшчэ раз падкрэслю, гэта заявіў не нейкі невядомы расейскі чарнасоценец, а краўнік МЗС! У Маскве даўно распрацаваная канцэпцыя генацыду і этнацыду беларускага народу. Разумееце – нашай беларускай мовы не існуе, а раз няма такой мовы, то значыць няма і такога народа! Мы для іх не існуем, а калі існуем – значыць мы для іх ворагі. А паводле даўняй крамлёўскай дактрыны – "если враг не сдаётся – его уничтожают". Таму філіял і яго маскоўскія кіраўнікі гатовыя на ўсё. Ажно да поўнай "замены" народу, які жыве на гэтай зямлі. На стварэнне гэткай "Кітарусіі", дзе будзе кіраваць расейская наменклатура, а на заводах і фабрыках будуць працаваць завезеныя кітайскія рабочыя, фактычныя рабы. Але праз чвэрць стагоддзя гэтай палітыкі раптам выявілася, што беларускі народ не згодзен з гэтым сатанінскім планам. І таму выршальнае слова павінна застацца за беларускім народам.

**Уладзімір Хільмановіч**
**«Радыё Рацыя»**



ЭКАНОМІКА

## ЗА КОШТ ЧАГО ВЫРАС АБ'ЁМ ПРЫЦЯГНУТЫХ ІНВЕСТЫЦЫЙ?

**Нягледзячы на цяжкасці, з якімі сутыкнулася Гарадоччына ў 2020 годзе, інвестыцыі, прыцягнутыя ў раён, павялічыліся, заявіла намеснік старшыні райвыканкама Таццяна Варанко.**

- Як і ўвесь свет, мы не маглі загадзя прадбачыць пандэмію і яе негатыўны ўплыў на сацыяльна-эканамічнае развіццё раёна. Планы да 2020-й і пяцігодку мы вызначылі яшчэ ў канцы мінулага года. Аднак жыццё ўнесла свае карэктывы, - сказала Таццяна Варанко. - Каранавірус значна падкасіў знешнеэканамічную дзейнасць, асабліва экспарт паслуг. Гарадоччыны - прыгранічны раён, які мае добры прыродны патэнцыял. Таму адна з найважнейшых задач, якія стаяць перад намі, - развіццё турыстычнага сектара. Але закрыццё межаў многімі краінамі звяло на нішто работу па прыцягненню замежных гасцей і інвестараў. Незапоўненымі апынуліся гасцініца ў райцэнтры і турысцка-аздараўленчы комплекс «Лосвіда» ФПБ. Сёння мы дасягнулі толькі 50% ад леташняга ўзроўню па тэмпу росту экспарту паслуг. Натуральна, ад гэтага пацярпелі грамадскае харчаванне, аграэкатурызм, транспартнікі і платная медыцына. Да канца года спадзяемся нагнаць як мага больш страчаных выгод, у тым ліку за кошт пашырэння спектру магчымых прапаноў і павышэння іх якасці.

Адбыўся «ковидны» перыяд і на іншых галінах эканомікі. У раёне шэсць асноўных прамысловых прадпрыемстваў. Калі камунальнікі і вытворцы сельскагаспадарчай прадукцыі змаглі ўтрымаць свае пазіцыі, то, напрыклад, экспарцёру СТАА «Ланатэкс» прыйшлося нялёгка.

- Яны вырабляюць вырабы з натуральнай воўны і ворсавага трыкатажнага палатна. Асноўны рынак збыту - Расія. З-за карантыну партнёры з суседняй краіны адмаўляліся ад раней заключаных кантрактаў, не забіралі прадукцыю, - паведаміла Таццяна Анатольеўна. - Разам з кіраўніцтвам прадпрыемства мы кінулі ўсе сілы, каб знайсці шляхі вырашэння праблемы і захаваць працоўны калектыў - каля ста чалавек. У пошуках кліентаў размяшчалі аб'явы на онлайн-пляцоўках, што гатовыя аказаць любыя паслугі па пашыве. Неўзабаве адгукнуліся медыкі. Пры садзейнічанні аблвыканкама дамовіліся з імі аб пастаўках медыцынскіх масак і ахоўных касцюмаў для медработнікаў. Гэта і дазволіла выжыць у самыя цяжкія месяцы пандэміі. Паступовa «Ланатэкс» пачаў вяртацца ў звыклы рэжым працы - аднавіліся ранейшыя кантакты, павялічылася адгрузка прадукцыі ў іншыя краіны. Па выніках першага паўгоддзя нават з'явілася невялікая прыбытак ад рэалізацыі - 8 тыс. руб. Паралельна вяліся мерапрыемствы па зніжэнні выдаткаў вытворчасці - мадэрнізацыя цэхаў, падвядзенне прыроднага газу да асноўных магутнасцях. Распрацоўваліся новыя віды тавараў.

Аграрыі, нягледзячы на цяжкую эпідэміялагічную сітуацыю, вясной і летам працавалі ў штатным рэжыме, каб забяспечыць харчовую бяспеку дзяржавы. Не зніжала абароты гандаль. Больш за тое, нядаўна ў Гарадку адкрыўся магазін «Санта». Ён не толькі палепшыў інфраструктуру новага мікраараёна каля райбальніцы, але і прадставіў 34 рабочых месцы для жыхароў раёна. Таксама развіваецца сетка гандлёвых аб'ектаў крокавай даступнасці і прыватных павільёнаў. Гэта дазваляе далучаць невыкарыстоўваныя будынкі ў гаспадарчы абарот і пашыраць асартымент тавараў па даступных цэнах, за якімі раней людзі ездзілі ў Віцебск.

- Ці не спынялася інвестыцыйная дзейнасць. Самы буйны з рэалізаваных праектаў - крама, збудаваны брэсцкім ТАА «Санта рытэйл». Неўзабаве яшчэ адзін беларускі інвестар павінен наладзіць у арандаваным у райпо памяшканні фасоўку і экспарт харчовай прадукцыі, адкрыць сыраварню. Прададзеная былая сталовая Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа, дзе плануюць наладзіць невялікую вытворчасць. Сышлі з малатка ферма ў вёсцы Вялікія Стайкі і Прудніцкая школа, дзе будуць перапрацоўваць сельгас-прадукцыю і вырабляць мэблю адпаведна. Былы комплекс сельскагаспадарчых памяшканняў арандуе і плануе выкупіць дзяржплемпрадпрыемстваў для развіцця там авечкагадоўлі. Спадзяемся, што ў бліжэйшы час у Езярышча стараннямі ЗП «Дзецкасельскі - Гарадок» з'явіцца цэх па перапрацоўцы малака, - адзначыла Таццяна Варонка. - Нягледзячы на цяжкасці, у бягучым годзе ў нас вырас аб'ём інвестыцый - 112% у супастаўных цэнах да ўзроўню 2019-га, у тым ліку будаўніча-мантажных работ - 122%. Каб не ўпусціць гэтыя капітальныя ўкладанні, мы прыкладвалі ўсе намаганні, змагаючыся за кожны праект.

**Эдуард Каролевич**
**пераклад з газеты vitvesti.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і болыш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НОВАЯ БЕЛАРУСЬ

# ВЯЛІКАЕ БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПАЎСТАНЬНЕ

**Незалежна ад таго, чым скончыцца ў Беларусі цяперашняе процістаяньне народу з уладай і яе сілавымі структурамі, для мяне асабіста ў гэтую выбарчую кампанію ўжо ўсё адбылося. Я ўбачыў тое, пра што марыў і што стараўся наблізіць сваёй працай апошнія 35 гадоў.**

**Цуд фармаваньня нацыі**

Я не магу суняць хваляваньня і трымценьня ў грудзях кожны раз, калі працую над асьвятленьнем падзеяў на радзіме ці проста гляджу трансьляцыі грандыёзных народных шэсьцяў адтуль.

Але пры гэтым, глыбока ў душы, я шчасьлівы. Бо бачу неверагодную карціну запозьненага абуджэньня і паўставаньня апошняй цэнтральна-ўсходнеэўрапейскай нацыі. Гэта ўсё ж, дзякуй Богу, адбылося. Мы адбыліся, і я гэта ўбачыў.

У адзін момант мільёны людзей раптам усьведамляюць сваю крэўную роднасьць, адзінства свайго гістарычнага лёсу і сваю асобнасьць ад астатняга сьвету. Раптам узьнікае разуменьне, што існуе з аднаго боку «сьвет» і «яны», а з другога — «мы», «беларусы».

Людзі востра адчулі і зразумелі, што крыніца ўлады — яны самі, грамадзяне, што дзяржаўны апарат — гэта ўсяго толькі наёмныя мэнэджары, якія разам зь сілавым блёкам жывуць на грошы людзей. І грамадзяне раптам запатрабавалі ад дзяржаўнага апарату строгага выкананьня законаў і ляяльнасьці.

Таму мы чуем на мітынгах і дэманстрацыях па ўсёй краіне дзясяткі аднатыпных дэклярацый з вуснаў простых людзей: «Мы тут улада!»

**Сымбалі і іх зьмест**

За апошнія чатыры месяцы ў краіне адбыўся фактычны плебісцыт у пытаньні вяртаньня гістарычнай сымболікі — бел-чырвона-белага сьцягу і герба Пагоня, а галоўным сымбалічным дэвізам новай нацыі стаў ужо ўсенародна прызнаны вокліч «Жыве Беларусь». Прыкладаў гэтага тут нават ня трэба прыводзіць — мы гэта бачым і чуем вакол сябе кожны дзень.

Усё гэта азначае перамогу беларускай Беларусі, за якую памерлі тысячы і тысячы яе найлепшых сыноў і дачок, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага. Але, у прынцыпе, пачатак гэтага шляху быў пакладзены ў 862 годзе, калі на гістарычную арэну выйшла Полацкая дзяржава.

Сымболіка вызначае зьмест і вэктар разьвіцьця краіны і народу. Цяпер ужо ясна, што раней ці пазьней гэта будзе такая Беларусь, якой яе бачылі Каліноўскі, Багушэвіч, Іваноўскі, Луцкевічы, іншыя айцы БНР і БССР, пасьляваенная культурная эліта, адраджэнцы 80-х — 90-х гадоў, дэпутаты незалежнасьці і ўсе, хто працаваў і працуе на Беларусь ў XX і XXI стагодзьдзі.

**Непазьбежная перамога беларус-кай мовы**

У сэрцах і душах беларусаў іх гнаная мова ўжо перамагла.

Пра гэта сьведчаць апытаньні грамадзкай думкі, калі большасьць выказваецца супраць страты беларускай мовы.

Пра гэта сьведчаць шматлікія прамыя эфіры Свабоды з вуліц вялікіх і малых беларускіх гарадоў, калі людзі просяць прабачэньня за тое, што будуць гаварыць па-расейску. Гэта вызнаньне маральнага імпэратыву і маральнае перамогі, якая праз некалькі дзесяцігодзьдзяў стане фактычнай.

Вось адзін з самых харак-тэрных прыкладаў. Менскі фатограф і пэдагог Ірына Бондзюк напісала пра сябе ў Фэйсбуку 22 ліпеня 2020 году:

«Извините, я по-русски. Мой папа белорус, военный. Мама русская. Я до 15 лет — по военным городкам, где белорусов не было. Как ребёнок военного, до 91-го белорусский язык не изучала. И до последнего года относилась ко всему спокойно... И ОГРОМНОЕ СПАСИБО учителям моего сына по истории — Суворову Родиону Олеговичу и по белорусскому языку и литературе — Федорович Светлане Павловне!!! Благо-даря им мой сын обожает разговаривать на белорусском языке и очень гордится нашей историей. А я... Я, глядя на него, и — не поверите, — благодаря Бабарико вдруг тоже поняла, что люблю Беларусь, что мы могли бы быть независимым народом с гордо поднятой головой. Это я всё к чему. Наверняка не одна я сейчас стала ходить везде в вышиванке и решила, что научусь говорить по-белорусски. Только сейчас у большинства начинает просыпаться национальное самосознание, ощущение объединения вокруг национальной идеи. Так что всё у нас впереди!!! Может быть я скоро смогу написать Вам на белорусском языке)».

Ад сярэдзіны жніўня Ірына Бондзюк вядзе свой ФБ ужо па-беларуску.

**Нацыянальнае вызваленьне і адасабленьне**

Беларусу ня трэба ўступаць у Эўразьвяз, каб адчуваць сябе эўрапейцам, беларус гэта і так ведае. Ён лічыць, што ў суседняй Польшчы не цывілізацыя, а «таксама цывілізацыя», як і ў Беларусі.

І мы сапраўды ведаем, што беларус — гэта эўрапеец, які жыве ў Эўропе. Ужо тысячу гадоў ён гэтак сама, як і людзі ў Нямеччыне, Францыі, Італіі або Гішпаніі, урабляе зямлю, гадуе сьвіней, сушыць кумпякі і кілбасы, будуе жыльлё ў вёсках і гарадах і моліцца ў храмах. Гэта разумеюць і апошнія месяцы пра гэта гаворыць палітыкі і простыя людзі.

Былы чыноўнік Адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Пласкавіцкі ў пачатку жніўня ў інтэрвію Свабодзе:

«Сёньняшняе абурэньне народу ніяк не выглядае празаходнім ці прарасейскім...»

Зварот да дэпутатаў Эўрапарлямэнту 25 жніўня 2020 году Сьвятланы Ціханоўскай:

«Беларусь прачнулася. Мы больш не апазыцыя. Нас цяпер большасьць... Рэвалюцыя ў Беларусі — гэта не геапалітычная рэвалюцыя. Гэта не прарасейская, не антырасейская рэвалюцыя. Гэтая рэвалюцыя ня супраць Эўрапейскага Зьвязу і не праэўрапейская. Гэта дэмакратычная рэвалюцыя. Гэта імкненьне нацыі вырашаць свае праблемы самой...

Я заклікаю ўсе краіны сьвету паважаць асноўнае права нацыі на самавызначэньне. Я заклікаю ўсе краіны сьвету паважаць сувэрэнітэт Беларусі. Я заклікаю ўсе краіны сьвету паважаць тэрытарыяльную цэласнасьць Беларусі.

Беларусь — частка Эўропы. Культурна, гістарычна і геаграфічна. Мы адданыя нормам міжнароднага права і хочам заняць годнае месца сярод іншых народаў Эўропы».

Пра гэта ж сьведчыла і ўся глыбока нацыянальная рытофыка трыюмвірату ў складзе Сьвятланы Ціханоўскай, Марыі Калесьнікавай і Веранікі Цапкалы падчас выбарчай кампаніі.

**Містычны маніфэст беларусаў**

Але вяршынным сьведчаньнем працэсу нараджэньня беларускай нацыі я лічу выступленьне простага работніка-будаўніка з Горадні, супрацоўніка «Горадняжылбуду». Калі я гэта пачуў, у мяне заварушыліся валасы на галаве і з вачэй паліліся сьлёзы.

Я ня думаў, што калі-небудзь такое пачую — як вуснамі простага чалавека мой народ містычна агучыць сваю спрадвечную мару — мару ляснога беларуса-хутараніна жыць на сваім кавалку зямлі без гаспадароў над ім — сьціпла, сумленна і культурна.

Мару народу, які стагодзьдзямі, у адрозьненьне ад паноўных клясаў, трымаў строгі парадак і чысьціню ў хатах, а з прыёму ежы зрабіў цэлы культурна-герархічны рытуал.

І гэта маніфэст нашага спрадвечнага сьціплага і культурнага народу, які стагодзьдзямі цярпеў ад сваіх і чужых гаспадароў і марыў усяго толькі пра спакойную працу на сябе самога і сваіх дзяцей.

Рабочы «Горадняжылбуду» сказаў літаральна наступнае:

«Я гаржусь дзяйсьцьвіцельна сваім беларускім народам. Мне не нада ні НАТА, ні Расія. Мы должны быць адны — з нармальным чэсным рукаводствам. Ва главе такой жа самы должан прэзыдэнт быць чэсны, как і мы».

Вось чаму тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі, — гэта Вялікае Беларускае Нацыянальнае Паўстаньне. А ўлічваючы, што паўстаньне — гэта апошні этап вызваленьня беларусаў ад вонкавых уплываў і залежнасьцяў, яго можна называць і нацыянальна-вызвольным.

Сьвет, у выпадку паразы паўстаньня, будзе вінаваты ў тым, што не аказаў беларусам дастатковай дапамогі, і стане бяднейшым.

І цяпер ужо зразумела — нічога не было дарэмна. Ніводная ахвяра, ніводная сьляза, ніводны пакутны ўздых перад шыбеніцай, расстрэлам ці пад катаваньнем, ніводная кніга, артыкул і нават слова, прамоўленае беларускімі палітыкамі, інтэлектуаламі і патрыётамі. Нічога не прапала і не памерла.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Сяргей Абламейка**
**Радыё Свабоды**

ПАНДЭМІЯ

# СХАВАЛІ СЬМЕРЦІ АД COVID-19

**Былы дырэктар РНПЦ «Кардыялёгія» Аляксандар Мрочак у інтэрвію расейскаму тэлеканалу «Дождь» выказаўся наконт магчымага заніжэньня ў Беларусі статыстыкі сьмяротнасьці ад каранавірусу.**

«Беларусы нічым не адрозьніваюцца ад эўрапейцаў, і наша нацыя ніякім чынам не адрозьніваецца ва ўспрыняцьці ковіднай інфэкцыі, дый любой іншай інфэкцыі, ад іншых нацыянальнасьцяў. Таму натуральна, што заўсёды выклікае падазрэньні зьніжаная сьмяротнасьць ад COVID-19», — сказаў Мрочак.

Ён дадаў, што раней разважаў наконт таго, з чым гэта можа быць зьвязана — «магчыма, перакрыжаваны імунітэт, актыўная імунізацыя ад грыпу ці БЦЖ» — але і эпідэміёлягі, і інфэкцыяністы ў цэлым не пагадзіліся з гэтай пазыцыяй.

На яго думку, павышаную сьмяротнасьць ад «хваробаў сыстэмы кровазвароту» ў афіцыйнай статыстыцы гэтага году нельга патлумачыць нічым іншым, як сьмерцямі ад каранавірусу, якія схавалі пад іншым дыягназам.

«Хваробы сыстэмы кровазвароту складаюць у статыстыцы 58% сьмерцяў у Беларусі, абганяючы значна іншыя краіны. Я думаю, і такія факты ў мяне ёсьць (не скажу, што па ўсіх тысячах сьмерцяў), што можна ставіць дыягназ «ішэмічная хвароба сэрца», не зьвяртаючы ўвагі на тое, што пацыент памёр ад лёгачнай недастатковасьці, зьвязанай з ковіднай інфэкцыяй«,— дадаў Мрочак.

6 верасьня ў справаздачах ААН знайшлася статыстыка сьмяротнасьці ў Беларусі, зь якой вынікае, што сьмяротнасьць за красавік-чэрвень 2020 году ў Беларусі перавысіла сярэднюю ў гэтыя месяцы за апошнія 5 гадоў прыкладна на 5500 чалавек: сёлета ў чэрвені рост сьмяротнасьці ў Беларусі супраць мінулага чэрвеня склаў 3753 чалавекі, у траўні — 1309, у красавіку — 543 чалавекі.

Паводле афіцыйных зьвестак, па стане на 30 чэрвеня ад каранавірусу ў Беларусі памерлі 398 пацыентаў — амаль у 14 разоў менш, чым прырост статыстыкі сьмяротнасьці за красавік-чэрвень. Згодна з тымі ж зьвесткамі, ад 1 ліпеня да сёньня памерлі яшчэ 307 пацыентаў з COVID-19.

Аляксандар Мрочак — вядомы беларускі кардыёляг, заслужаны дзеяч навукі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар мэдыцынскіх навук, прафэсар, былы дырэктар РНПЦ «Кардыялёгія».

27 жніўня Міністэрства аховы здароўя звольніла Мрочака з пасады кіраўніка РНПЦ «Кардыялёгія», нягледзячы на тое, што цэнтры зьбіралі подпісы пад калектыўнай заявай у абарону свайго дырэктара. Сам Мрочак зьвязвае рашэньне з тым, што лекары клінікі выходзілі на пікеты ў непрацоўны час. Яго абвінавацілі ў тым, што ня змог утрымаць калектыў і не забараніў людзям выказваць грамадзянскую пазыцыю наконт сытуацыі ў краіне.

**svaboda.org**

ТУРЫЗМ

# ВОДНА-ТУРЫСЦКІ ФЕСТЫВАЛЬ «ВІТА»

**Адкрыты гарадскі моладзевы водна-турысцкі фестываль «Віта», прысвечаны 75-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, прайшоў на беразе возера Ласвіда ў Гарадоцкім раёне.**

На працягу трох дзён 13 каманд спаборнічалі ў трапнасці, спрыту, дэманстравалі свае артыстычныя здольнасці і выдатную фізічную падрыхтоўку.

Як распавёў галоўны спецыяліст аддзела спорту і турызму Віцебскага гарвыканкама Уладзімір Кухараў, гэта быў самы масавы злёт за апошнія гады. Арганізатары фестывалю стараюцца зрабіць мерапрыемства цікавым і арыгінальным, даючы магчымасць моладзі паспрабаваць свае сілы ў незвычайных відах спаборніцтваў.

У першы дзень пасля ўрачыстага адкрыцця стартавалі спаборніцтвы па дартсе і міні-футболе. Асаблівасцю апошняга стаў удзел у адной гульні адначасова трох каманд. Задача кожнай - забіць больш галоў супернікам і менш прапусціць у свае вароты.

Адказна падышлі ўдзельнікі да падрыхтоўкі конкурсу песні ваенных гадоў «Да подзвігу героям песняй дакраніся!».

У другі дзень працягнуліся спаборніцтвы па міні-футболе. Моладзь праверыла свае сілы ў кракет, гольфе, арыентаванні. Парадаваў конкурс жартоўнай песні. Нямала было падрыхтавана і выпрабаванняў на вадзе - да прыкладу, валейбол, перацягванне ліны. У трыятлоне таксама быў этап, дзе трэба было пераадолець водную дыстанцыю.

У апошні дзень фестывалю асабліва павесяліла жартоўная лёгкаатлетычная эстафета. У ёй зборная Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі заняла 1-е месца. Дружней і зладжаней усіх дайшлі да мэты на адной пары лыж чатыры маладыя чыгуначніка, ногі якіх былі прымацаваныя.

Па выніках выніковага пратаколу перамогу святкавала каманда ААТ «Веста», сярэбраныя ўзнагароды - у калектыву філіяла «Энергазбыт» РУП «Віцебскэнерга». Трэцяе месца заваявала дружына ААТ «Віцебскі мясакамбінат».

**Ірына Хасанава**
**http://vitvesti.by**

АНАЛІТЫКА

# МЕСЯЦ БЕЛАРУСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

**Сёньня роўна месяц, як Беларусь жыве ва ўмовах рэвалюцыі. Яна здарылася нечакана для ўсіх, у тым ліку для беларускіх і замежных палітыкаў і экспэртаў. Акцыі пратэсту прагназавалі ўсе, але мала хто чакаў такога іх маштабу, зацятасьці і працягласьці.**

**Рэвалюцыі не мінаюць бясьледна**

Найперш усе гэтыя падзеі сталі неспадзяванымі для кіроўнага рэжыму, які паспрабаваў у першыя тры дні «закачаць у асфальт» усіх незадаволеных. Раней гэта спрацоўвала, а цяпер стала дадатковым чыньнікам абурэньня грамадзтва.

Першыя тры дні пасьля выбараў Беларусь перажыла кароткую грамадзянскую вайну. Некалькі забітых, сотні параненых і пакалечаных катаваньнямі, тысячы затрыманых.

Падзеі ў Беларусі лішні раз пацьвярджаюць вядомую выснову, што ніводная рэвалюцыя ў сьвеце не была прадказаная. І нават калі беларуская рэвалюцыя закончыцца паразай, яна ўсё роўна ўвойдзе ў гісторыю і будзе мець вялізны ўплыў на далейшае разьвіцьцё краіны. Бо рэвалюцыі не праходзяць бясьследна. За гэтыя тры месяцы была фактычна сфармаваная грамадзянская супольнасьць, адбыўся завяршальны працэс фармаваньня беларускай нацыі.

**Рэвалюцыя годнасьці**

Прычым, зьвярніце ўвагу, пратэстоўцы не выстаўляюць ніякіх эканамічных патрабаваньняў. Гэта беларускі варыянт украінскай «рэвалюцыі годнасьці». Мусіць, гэта ўвогуле прыкмета любой рэвалюцыі XXI стагодзьдзя.

Можна лёгка памыліцца, але, здаецца, самы небясьпечны для кіроўнага рэжыму момант, пік рэвалюцыі ўжо прайшоў. То былі першыя 10 дзён пасьля выбараў, калі спрабавалі аб'явіць усеагульны страйк на дзяржпрадпрыемствах. Страйкавалі нават супрацоўнікі БТ. Расея нейкі час хісталася, не вызначылася ў сваёй пазыцыі адносна Беларусі. На некалькі дзён спыніліся затрыманьні апанэнтаў рэжыму.

Аднак маральна-псыхалягічны ціск народнага пратэсту на дзяржаўныя інстытуты не прывёў да іх нэўтралізацыі. Бо гэтыя дзяржаўныя інстытуты ніяк не залежаць ад грамадзтва. Адсутнічаюць мэханізмы зваротнай сувязі.

**Вяртаньне да рэпрэсій**

Потым улады перайшлі ў наступ. Яны вярнуліся да звыклага мэтаду палітычных рэпрэсій. Гэта адзіны інструмэнт, які ёсьць у арсэнале рэжыму. Прычым з кожным днём рэпрэсіі ўзмацняюцца. Тактыка немудрагелістая. Стаўка робіцца на тое, каб усіх задушыць, вярнуць краіну ў перадвыбарчы стан. Але дзеля гэтага ўладам спатрэбіцца стварыць канцлягеры, бо турмаў і калёній на ўсіх ня хопіць. Вельмі ж шмат пратэстоўцаў.

Казаць пра нейкую стратэгію і тактыку праціўнікаў рэжыму не выпадае. Бо няма адзінага штабу, цэнтру, працуе спантанная самаарганізацыя грамадзтва. Тут спадзевы толькі на працяг масавасьці пратэсту, а таксама на эканамічны крызіс, які можа даць дадатковы імпульс незадаволеньня.

Таксама адбываецца працэс эрозіі тых карпаратыўных інстытутаў, на якія раней абапіраўся рэжым, дзяржапарат. Маю на ўвазе Царкву (Лукашэнка быў вымушаны выціснуць за мяжу кіраўнікоў Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў), выхад людзей, хоць і ня масавы, з афіцыйных прафсаюзаў, БРСМ. Нават дзяржаўныя прадпрыемствы — апора беларускай сацыяльнай мадэлі — сталі нядобранадзейнымі. Іх калектывы выказалі пратэст, на МЗКТ Лукашэнка зазнаў абструкцыю.

**Рэзка ўзрос уплыў Расеі**

Таму пакуль існуе часовая раўнавага і пэўны палітычны тупік. Паколькі Лукашэнка адмаўляецца ад перамоваў, то зыход палітычнага крызісу можа адбыцца толькі ў выніку абсалютнай перамогі аднаго з бакоў канфлікту.

Тым часам за гэта месяц у краіне адбыліся значныя перамены. Аляксандар Лукашэнка, які чвэрць стагодзьдзя зьяўляўся гарантам беларускай стабільнасьці, раптам стаў галоўным чыньнікам дэстабілізацыі Беларусі.

Падзеі апошняга месяца нанесьлі зьнішчальны ўдар па міжнароднай суб'ектнасьці Беларусі. Практычна зьнік заходні вэктар. Увогуле разбурана шматвэктарнасьць беларускай замежнай палітыкі. Рэзка ўзрос уплыў Расеі на ўнутраныя працэсы ў Беларусі. Дажыліся да таго, што на перамовах у Маскве паміж міністрамі замежных спраў Беларусі і Расеі Уладзімерам Макеем і Сяргеем Лаўровым абмяркоўвалася канстытуцыйная рэформа ў краіне.

Дарэчы, гэтая канстуцыйная рэформа, якую нібыта плянуецца ажыцьцявіць праз два гады, ніякім чынам не зьяўляецца спосабам вырашэньня палітычнага крызісу ў Беларусі. Гэта ўвогуле ход убок ад галоўнага пытаньня беларускай рэвалюцыі — пытаньня аб легітымнасьці існага рэжыму і прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі.

**Валера Карбалевіч**
**www.svaboda.org**

НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ

# АЛЕКСІЕВІЧ: Я НЕ ХАЧУ ПАКІДАЦЬ КРАІНУ

**Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч — адзіны член прэзідыюму Канстытуцыйнай рады беларускай апазіцыі, які застаецца на свабодзе і ў Беларусі.**

Нобелеўскі лаўрэат у галіне літаратуры і член прэзідыума Каардынацыйнай рады беларускай апазіцыі Святлана Алексіевіч паведаміла, што не збіраецца з'язджаць з Беларусі на фоне затрыманняў і гвалтоўнага вывазу з краіны астатніх членаў прэзідыума КР, піша dw.com. "Я не хачу пакідаць краіну", — заявіла яна ў сераду, 9 верасня, выйшаўшы да прысутных ля яе кватэры журналістаў, пасля таго як раней у кватэру спрабавалі ўварвацца людзі ў масках.

Адначасова Алексіевіч раскрытыкавала практыку беларускіх сілавікоў "адпраўляць людзей кудысьці" за межы краіны і адзначыла, што сябру Прэзідыума КР Марыі Калеснікавай атрымалася спыніць такія дзеянні. Пісьменніца таксама паведаміла, што ў той жа дзень раніцай ёй хтосьці "без канца тэлефанаваў у дзверы", прычым гэта былі "прафесійныя званкі". Акрамя таго, яна паведаміла аб сачэнні за ёй на працягу месяца пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Святлана Алексіевіч падкрэсліла, што Каардынацыйная рада працягне працу, нягледзячы на дзеянні ўладаў у дачыненні да яго членаў. "Каардынацыйная рада будзе жыць, мы яе зрабілі пашыранай", — адзначыла яна і паказала, што працаваць у ім выказалі жаданне 4000 чалавек.

**Пратэстуе не Каардынацыйная рада, а народ**

Раніцай таго ж дня, калі невядомыя спрабавалі трапіць у кватэру Алексіевіч, яна апублікавала заяву на сайце Беларускага ПЭН-цэнтра, які яна ўзначальвае. У ім пісьменніца падкрэсліла, што акцыі пратэсту ў Беларусі праводзяць не сябры КР, а грамадзянская супольнасць.

"Спачатку ў нас скралі краіну, выкрадаюць лепшых з нас. Але замест выдраных з нашых шэрагаў прыйдуць сотні іншых. Паўстаў не Каардынацыйны камітэт. Паўстала краіна. Я хачу паўтарыць тое, што кажу заўсёды. Мы не рыхтавалі пераварот. Мы хацелі не дапусціць расколу ў нашай краіне. Мы хацелі, каб у грамадстве пачаўся дыялог. Лукашэнка кажа, што не будзе гаварыць з вуліцай, а вуліца — гэта сотні тысяч людзей, якія кожную нядзелю і кожны дзень выходзяць на вуліцу. Гэта не вуліца. Гэта народ", — заявіла Алексіевіч.

Святлана Алексіевіч — адзіны, які застаецца на свабодзе і ў Беларусі член прэзідыума КР, хоць па стане здароўя пакуль не хадзіла на яго пасяджэння. 9 верасня быў затрыманы член КР Максім Знак, у той жа дзень стала вядома аб арышце Марыі Калеснікавай, якая была выкрадзена 7 верасня і якую ўлады спрабавалі гвалтоўна вывезці з краіны.

АВГУСТОВСКИЕ ПРОТЕСТЫ

# С КАКИМИ ТРАВМАМИ ВЕЗЛИ В БОЛЬНИЦЫ…

**В распоряжении TUT.BY несколько дней назад оказался документ, полученный от источников в здравоохранении, под названием «Обращения улица_с 09.08.2020». В нем указаны данные более 1100 человек, которые обращались за медицинской помощью, а также описание полученных ими травм. TUT.BY смог проверить эту информацию в пяти клиниках Минска — их данные практически полностью совпадают с теми, что указаны в документе. В некоторых клиниках мы информацию подтвердить или опровергнуть не смогли, поэтому диагнозы оттуда не используем. И — хотим еще раз обратить внимание на то, что этот документ получен нами из неофициальных источников.**

Полученный документ представляет собой списки тех, кто с 9 по 23 августа «при проведении уличных мероприятий» обращался за медицинской помощью или получал ее в разных медучреждениях Минска.

В нем указаны место и время обращения, диагноз скорой медицинской помощи, куда направлен для оказания помощи и диагноз стационара.

Согласно документу, в Минске медицинская помощь понадобилась примерно 1140 лицам.

Напротив одного «неизвестного» указана «смерть до приезда». Вероятно, это был Александр Тарайковский: указанные время и место обращения совпадают с обстоятельствами его гибели…

**Какие травмы зафиксированы у тех, кто обращался за помощью в ночь с 9 на 10 августа**

Как указано в документе, пострадавших в период с 9 на 10 августа в столице было не менее ста человек (во всех клиниках Минска, с учетом тех, где мы не смогли подтвердить все данные). Весь вечер и ночь их забирала скорая и отвозила в разные больницы. Пациентов с наиболее тяжелыми травмами везли в Главный военный госпиталь.

В военный госпиталь в ту ночь поступило несколько десятков человек с осколочными ранениями лица, груди, живота и конечностей, рваными ранами, огнестрельными ранениями, ожогами верхних конечностей и живота.

Вот так звучат диагнозы некоторых пострадавших:

- огнестрельное проникающее ранение живота, эвентрация тонкого кишечника,
- открытая травма грудной клетки, травматический шок,
- минно-взрывная травма бедра, ЧМТ средней степени тяжести, ушибы мягких тканей головы,
- оскольчатое ранение шеи, правого предплечья,
- проникающее оскольчатое ранение передней поверхности шеи,
- химический ожог конъюнктивы роговицы обоих глаз,
- множественные огнестрельные раны туловища, правой нижней конечности,
- рваная рана обеих стоп, рана лица.

Также в ту ночь, согласно этому неофициальному документу, у трех человек был зафиксирован перелом основания или свода черепа. У одного из них был оскольчатый перелом костей свода и основания черепа, лицевого скелета, пневмоцефалия (скопление воздуха внутри черепа), геморрагический ушиб головного мозга, гематома правой лобной области. Их, по нашим данным, которые не удалось верифицировать, привозили в 5-ю больницу.

У еще одного человека зафиксировали открытую черепно-мозговую травму средней степени тяжести, острую оболочечную гематому, перелом свода и основания черепа, пневмоцефалию, закрытый перелом 2–7 ребер справа, а также состояние алкогольного опьянения под вопросом. Он попал в 4-ю больницу.

**С какими травмами привозили пациентов, которых скорая забирала с Окрестина**

У некоторых пострадавших местом обращения указан 1-й переулок Окрестина, 36, — по этому адресу находится Центр изоляции правонарушителей ГУВД Мингорисполкома. Оттуда, согласно документу, госпитализировали около 50 человек, вызовы по указанному адресу поступали в скорую с раннего утра 10-го по 15 августа (15-го с Окрестина увезли одного). После обследования в стационаре пациентам ставили различные диагнозы, в основном — множественные

*(працяг на стар. 4)*

## АВГУСТОВСКИЕ ПРОТЕСТЫ

*(пачатак на стар. №3)*

ушибы мягких тканей, грудной клетки, гематомы бедер и ягодичной области, ушибленные раны теменно-височной области, реже — переломы ребер, рук и пальцев, закрытую ЧМТ.

Некоторые из задержанных поступали в больницу с судорожным приступом, состоянием после эпилептического приступа, травмами глаз, гипертоническим кризом, закрытым переломом правого надколенника со смещением отломков.

У двоих задержанных и позже госпитализированных из ЦИП был выявлен алкоголь в крови. У одного человека — 0,7 промилле, у другого — 3,3 промилле. Еще у троих состояние алкогольного опьянения стоит под знаком вопроса.

Если внимательно изучить документ, то можно заметить, что в некоторых случаях (примерно пяти) местом обращения указаны разные РУВД Минска.

Например, 10 августа, указано в документе, из Ленинского РУВД госпитализировали двух человек: одного — с резаными ранами обеих бедер, другого — в состоянии после электротравмы. После посещения больницы они направились домой.

Вечером 12 августа из Первомайского РУВД госпитализировали человека с закрытой ЧМТ, сотрясением головного мозга, ушибом мягких тканей головы и поясничной области, множественными гематомами нижних конечностей.

Ранним утром 13 августа из Ленинского РУВД забрали человека с закрытой ЧМТ, сотрясением головного мозга, ушибом мягких тканей теменной области справа, переломом носа.

В ночь на 13-е августа из Партизанского РУВД госпитализировали человека после приступа эпилепсии, с закрытой ЧМТ, переломом верхней стенки верхнечелюстной пазухи.

*(скарочана)*

**tut.by**

## ПАСЛЯ 9 ЖНІЎНЯ

# «ВЫ ПУСТИЛИ ГАЗ НА НАС, МИРНЫХ ЛЮДЕЙ!»

**В Витебске четвертое воскресенье подряд проходят общегородские марши протеста против итогов президентских выборов. Раньше милиция просто наблюдала за демонстрантами и снимала их на видео. А 6 сентября в Витебске впервые произошли жесткие стычки силовиков с протестующими. Милиция применяла дубинки, газ из баллончиков. Несмотря на это, горожане отбивали тех, кого хотели задержать — и в некоторых случаях им удавалось.**

Марш солидарности начался в 14 часов от городского загса на улице Ленина. Колонна пошла вниз, к ТРЦ «Марко-сити».

Возле «Марко-сити» к маршу присоединились медики и студенты ветакадемии. Они шли в белых халатах.

С улицы Ленина колонна повернула на проспект Фрунзе. К этому моменту в ней шло, по разным оценкам, от 300 до 500 человек.

Медики участвуют в мирных протестах уже по традиции, начиная с 13 августа. А будущие ветеринары вышли на марш впервые. Напомним, 2 и 3 сентября студенты ВГАВМ становились в цепь солидарности возле своего вуза, а 4 сентября возле лабораторного корпуса начался «плановый ремонт».

Одна девушка-медик несла плакат с фотографиями омоновцев и словами «Вас будут лечить эти специалисты». У студентов-ветеринаров был плакат «Айболиты победят Бармалея».

Протестующие также держали плакаты «Тадэвуша Кандрусевіча на радзіму!», «Саша, уходи и ОМОН свой забери», «Не чапай!», «Правда победит силу и ложь» и другие.

Одна демонстрантка, с бутафорскими усами, несла плакат «Я не понял: я уволен? #ябатька».

Люди скандировали: «Лукашенко в автозак», «Пошел вон!», «Верым, можам, пераможам!» и другие лозунги.

Колонна демонстрантов дошла до медуниверситета на проспекте Фрунзе. Дальше их не пустила милиция. Силовики выстроились по обе стороны проспекта. Протестующие развернулись и пошли обратно — к площади Свободы.

Улицу Ленина также перегородили милиционеры. Здесь, возле кафе «Бульбяная», произошла первая стычка силовиков и демонстрантов. Люди хотели пройти вперед, но силовики не дали им такой возможности.

Одного мужчину милиционеры повалили на асфальт, били, в том числе дубинками. Его в итоге задержали.

Затем горожане перешли на противоположную сторону улицы Ленина. Там их ожидал ряд «космонавтов».

Протестующие с криками «Это наш город!» прорвали этот кордон и пошли дальше. Через парк на Богдана Хмельницкого они попали на улицу "Правды«.

На улице «Правды», чуть дальше облисполкома, протестующих снова встретила милиция. Демонстранты, несмотря на движущийся транспорт, перебежали дорогу и продолжили путь.

В начале пятого произошла вторая стычка с милицией. На этот раз — на пустыре в районе магазина «Пинскдрев» на улице «Правды». Милиция там задерживала и избивала дубинками мужчину. Митингующие это увидели, многие перепрыгнули через парапет и бросились ему на помощь.

Во время этого столкновения милиция применила против людей газ из баллончиков.

Через некоторое время горожане оттеснили милиционеров с пустыря к тротуару.

С улицы «Правды» горожане свернули на Смоленскую, потом двинулись по Московскому проспекту.

Милиция перекрыла перекресток Московского и улицы Чкалова. Тогда демонстранты свернули во дворы и таким образом вышли на проспект Строителей, а потом — на улицу Чкалова.

В районе Южного рынка произошло новое противостояние с милицией. Силовики разбили протестующих на две части и стали в кордон между ними.

— Когда мы едины, мы непобедимы! — подбадривали друг друга демонстранты.

Затем протестующие пошли к костелу Иисуса Милосердного на улице Воинов-интернационалистов. Участников марша становилось меньше, люди расходились.

Около шести часов вечера марш завершился.

Среди задержанных — корреспондент Белсата Дмитрий Казакевич. Он находится в ИВС, сообщила TUT.BY его жена, Ирина Казакевич.

*(скарочана)*

**TUT.BY**

## НОВЫЕ БЕЛАРУСЫ

# КАК БЕЛОРУСЫ ПОРВАЛИ ШАБЛОН

**Скромные, терпеливые, местами пугливые белорусы за месяц расцвели. Страна, которая напоминала отмытый и аккуратно, но скучно причесанный Советский Союз, оказалась современной, креативной и стильной.**

Система подавления и запугивания работает на износ, и масштабы задачи очевидно превышают возможности и ресурсы. Если три сотрудника правоохранительных органов нужны для того, чтобы ночью охранять будку в одном из дворов Минска ради обеспечения порядка в виде черного квадрата на стене и противодействия воцарению хаоса в виде изображения «диджеев перемен», то сколько человеко-часов надо на срывание сотен флагов, срезание тысяч ленточек и задержание всё выходящих и выходящих на улицу и из себя мужчин и женщин, студентов и айтишников, журналистов и врачей. А еще приходится отвлекаться на эмчеэсников, осводовцев, сигналящих водителей, рисующих на асфальте детей и их родителей, спортсменов, нобелевских лауреатов и католических архиепископов.

Уголовные дела возбуждаются пачками, административки льются рекой. Степень абсурдности претензий при этом значения не имеет. Как и соблюдение законов, хотя бы формальное. Президент же прямо сказал, мол, «иногда не до законов». Особенно когда в стране «осуществляется практически наглая интервенция», которая «подогревается изнутри» и «руководится извне».

Процессы абсурда (вроде суда над спасателями ОСВОДа, не туда высадившими вытащенных из воды участников акции, убегавших от силовиков) сменяются процессами мести, где бывший телеведущий ОНТ и глава президентского пула журналистов Дмитрий Семченко получает 15 суток. Семченко присутствовал на несанкционированном митинге еще до увольнения, 16 августа.

— В то время я был начальником президентского пула, с журналистским удостоверением. Я был там, чтобы по-общаться с людьми, выяснить их мнение. Общался с теми, кто за действующую власть и против нее. Мне нужно было понять, что чувствует общество — от первоисточника. Я там был, но у меня не было транспарантов, я не выкрикивал лозунгов. На тот момент я был журналистом государственного телеканала ОНТ, — рассказывает Семченко.

Судья уточнила, был ли Дмитрий на митинге в рабочее время, а также каким образом и кто его туда направил. Очевидно, что шеф президентского пула вполне в состоянии самостоятельно принять решение о визите на любое мероприятие, примерно как шефу ГУБОПиКа Николаю Карпенкову не надо ничьих приказов, чтобы именем революции вынести стеклянную дверь кофейни. Отсутствие свидетелей правонарушения, совершенного опальным журналистом, судью не смутило. 15 суток.

Отомстили? Напугали? Лично Семченко — вряд ли. Остальным до сей поры честным журналистам, поглядывающим на сторону, видимо, стоит намотать на ус. Но пугать тоже надо уметь. Страх и гнев — это рядом, и эмоция может оказаться не той, на которую рассчитывали. Вот задержали журналистов TUT.BY, БелаПАН, «Комсомольской правды». Мы испугались? Отнюдь. Разозлились, возмутились, разбили лагерь под РУВД, нарисовали плакаты, написали во все мыслимые инстанции, подробнейше описали судебные перипетии с анонимными свидетелями в балаклавах, переписанным протоколом и абсурдными обвинениями, которые не могли быть правдой как минимум в силу ограниченности человеческих возможностей и неотменимости законов физики. Отрефлексировали решение суда. Работать на акциях, и разрешенных, и наоборот, не перестали.

Несмотря на беспрецедентные масштабы насилия и давления, масштабы солидарности раз за разом их перекрывают. К примеру, уволенному сотруднику МЧС, сообщившему о готовящихся снятиях флагов по нескольким адресам, моментально нашли и бесплатного адвоката для оспаривания увольнения, и замену служебному жилью. И это не учитывая действие многочисленных фондов помощи, которые в последнее время так озаботили правоохранительные органы, что некоторые руководители фондов даже удостоились упоминания в официальном телеграм-канале МВД. Мол, вы ему деньги перечисляете, а он «разъезжает на такси в Минске и Гомеле, расплачивается в торговых центрах и увеселительных заведениях». Так мы и налоги платим, а нанятые за наш счет силовики кошмарят недовольных.

Кстати, экономика протестующей страны — отдельная тема. В топке горячего августа сгорело 1,4 млрд долларов золотовалютных резервов, а доверие властям и рублю в сентябре не окрепло. Отток депозитов, перекрытие кредитования больно бьют по банковской системе, спасать которую дорого, а не спасать — еще дороже.

Аналогично — с удушением бизнеса и с разделением его на лояльный и не лояльный власти. Лукашенко сам сделал недвусмысленную оговорку, мол, все бизнесмены равны, но будет учитываться «преданность государству». Так что если хочешь работать, придется перстень целовать. Кто-то из реального сектора и не побрезгует, поцелует, спасая свои активы. А вот ИТ-гвардия, незаметно из гламурных мажоров ставшая мозгами и кошельками движения перемен, просочится сквозь «синие пальцы» режима, унося с собой людей, инвестиции, технологии — ту энергию свободной мысли, которая не подчиняется приказам людей в погонах, не строится под ружье. В общем, панды в неволе — не размножаются

Кроме экономики не забудем про эстетику процесса. Про ту разницу между безликой массой цвета хаки с колготками на голове и яркими девушками, неизвестно откуда хлынувшими на улицы: сами — в белом, губы — в алом, огонь в глазах. Про сумасшедшую выходку Марии Колесниковой вообще молчу. Еще одна такая пленница, рвущая паспорта и шаблоны, — и силовикам потребуется психотерапевт и санаторий.

А с другой стороны — неблагозвучное #ямыбатька и убогие попытки объясняться в любви вождю в исполнении преимущественно силовиков и аграриев. Вроде и дело нехитрое, а тоже надо уметь. Чтобы и от души, и искренне, и без вот этого казенного «на практике доказана состоятельность стратегии руководства страны, и прежде всего, Главы государства Александра Григорьевича Лукашенко, сделавшего ставку на возрождение и развитие села».

И в противовес — море реальной помощи, поддержки, теплых слов, солидарности, уважения и восхищения. Того, чего нам не хватало годами. Новые белорусские люди, они, наконец, долюбленные.

*(сокращено)*

**Ольга Лойко**
**TUT.BY**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 18.09.2020 у 19.19**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.